# СЬВЕТАЧ ХРЫСТОВАЕ НАВУКІ

ПЕРШЫ БЕЛАРУСКА-ЭВАНГЕЛЬСКІ ЧАСАПІС

Год выд. 33 1966 № 2(83)


# Чалавек і ягонае шчасьце

**У поце твайго чала будзеш ты есьці хлеб.**

Май. 3:19

Зь няпамятных часоў, з пакаленьня ў пакаленьне пераказвалася думка пра хлеб, пра працу, адпачынак, вольны час, пра лепшае жыцьцё . . .

Усе натугі чалавека канцэнтраваліся ў напрамку асягненьня лепшых абставінаў жыцьця, чуцца болей шчасьлівым. З гэтае прычыны чалавек імкнуўся здабыць як найболей матэрыяльных багацьцяў і ўвольніць сябе ад працы, з паняцьцем якой вязаліся ўтома, пот, беднасьць, а часта і ка́ра. Каб-жа гэтае апошняе асягнуць, чалавек імкнуўся здабыць максімум веды, распрацоўваў плян прытарнаваньня навукі для завяршэньня старых мрояў.

Усё сьведчыць аб тым, што сягоньня мроі ягоныя могуць стацца рэчаіснасьцю.

Стагодзьдзе за стагодзьдзем чалавек награмаджваў дасьведчаньне, якое сягоньня выражаецца паняцьцем аўтаматызацыі. Калішнія лятуценьні, асвабадзіцца ад працы пры помачы машыны, прыймаюць свае выразныя кантуры.

Адносна нядаўна адзін з паважных часапісаў падзяліўся з чытачамі фантастычнаю весткаю.

Паводля гэтае весткі, зграмаджэньне людзей навукі, рэпрэзэнтуючых бадай усе галіны веды, займаецца распрацаваньнем скамплікаванага і сьмелага, дагэтуль нячуванага пляну з галіны эканамічна-сацыяльнага жыцьця.

The Torch of Christ's Teaching — The First Protestant Monthly Magazine in Whiteruthenian, since 1933
*Editor and Publisher:* Rev. Dr. John Piotrowski
Mailing Address: 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204

Паводля гэтага пляну, кажнаму чалавеку маюць быць запэўненыя абставіны свабоднага, у сэнсе эканамічным, жыцьця. З гэтаю мэтаю кажны чалавек мае атрымаць абесьпячэньне, якое павінна запэўніць яму мінімум дастатковага і годнага чалавека існаваньня, ня гледзячы на тое, працуе ён ці не і колькі зарабляе.

Паводля гэтага пляну, які мае прыняць форму закону, гадзіны працадня маюць быць скарочанымі; маюць быць яшчэ болей скарочаныя дні працы ў тыдні.

Усё гэта ўзятае разам, зьяўляецца тым, што, паводля думкі самога чалавека, учыніць апошняга шчасьлівым.

І тут зноў узьнікае старое, як сьвет, пытаньне, што ёсьць шчасьце.

Распрацоўваючы гэты плян, эканамістыя, і разам зь імі псыхалёгі і псыхіятрыстыя, займаюцца пытаньнем псыхалягічнага характару. Узьнікае пытаньне, што чалавек будзе рабіць з вольным часам і які ўплыў вольны час будзе мець на чалавека.

"Ня мог Вам адказаць хутка, бо ня меў я часу", часта чытаем у лістох да нас. "Не зрабіў я гэтага, бо быў заняты", чуем. "Якая шкада", мы можам падумаць. А тымчасам ніякае ў гэтым вялікае шкоды няма. Наадварот, у факце ягонае занятасьці крыецца вялікае багаславенства. Праца і занятак чалавека — гэта той сродак, які трымае яго маральна зроўнаважаным і надае ягонаму жыцьцю сэнс, чыніць яго самога вартасным і напаўняе годнасьцю.

У доўгіх гадзінах вольнага часу чалавек можа згубіць кантакт з самым сабою. І час, які пры нармальных абставінах хутка мінае, цяпер можа стацца доўгім, а паняцьце свабоды можа быць паддадзеным пераацэне.

Чалавек можа доўгія гадзіны праседжваць на беразе з вудачкаю ў руках. Ці мае ён цяперака сядзець на беразе бязьмежна? Як доўга ён можа сядзець у тэатры, займацца спортам, адбываць спацыры і наагул, чым ён мае забіць свой вольны час? — Гэта пытаньні, на якія цяперака шукаецца адказу.

Гэтыя, тэарэтычнага характару, пытаньні сягоньня, могуць стацца першараднымі заўтра.

Ці ідзем мы ў напрамку *залатога веку,* ці ў напрамку парадоксу?

Што чалавек мусіць мець і колькі з гэтага, каб чуцца шчасьлівым?

*Ян Пятроўскі*

## СЕМ ЦЭРКВАЎ ЗЛУЧАЮЦЦА Ў ВАДНУ ЦАРКВУ

Дня 1 красавіка 1966 году пададзена да ведама, што сем важнейшых пратэстанцкіх цэркваў маюць злучыцца ў вадну царкву. Працэс злучэньня мае трываць пяць гадоў і не пазьней, як да 1979 году.

Калі да гэтага злучэньня дойдзе, — а ўсё паказвае на тое, што так, — будзе гэта найбольшая пратэстанцкая царква на сьвеце.

Упаўнаважаным старшынёю зьяўляецца Пастар др Яўгень Карсон Блейк, галоўны прадстаўнік Злучанае Прэсбітар'янскае Царквы, які першы ў 1960 годзе ўчыніў прапанову злучэньня. Ад гэтага часу вяліся кансультатыўныя перамовы пры пасярэдніцтве цела, званага "Кансультацыя ў справе царкоўнае еднасьці".

Кансультацыя складаецца з афіцыяльных дэлегацыяў ад наступных цэркваў: Злучаная Прэсбітар'янская Царква, Мэтадыстычная Царква, Япіскапальная Царква, Злучаная Царква Хрыста, Вучні Хрыста, Афрыканская Мэтадыстычная Япіскапальная Царква і Эвангельскія Злучаныя Брацьця. Усе яны разам рэпрэзэнтуюць болей 20 мільёнаў людзей.

На зграмаджэньні ў Лексінґтон, Кэнтакі, у мінулым годзе, Кансультацыя выдзяліла із свайго асяродзьдзя адумысную камісыю, ачольваную др Блейкам з мэтаю нарысаваньня магчымага пляну злучэньня. У пятніцу, дня 1 красавіка г.г. др Блейк на прэсавай канфэрэнцыі прадставіў дакумант да агульнага ведама, які будзе пададзены да ўвагі кансультатыўнаму целу з мэтаю прыняцьця яго, дапаўненьня або адкіненьня на найбліжэйшым пленарным паседжаньні.

Прадложаны плян адлюстроўвае згоду, асягнутую на папярэднім кансультатыўным зграмаджэньні ў справе дактрыны і арганізацыі.

Плян прадбачыць, напрыклад, што аб'еднаная царква мае мець япіскапаў. Ён пацьвярджае аўтарытэт біблії, як чыньнік мерадайны, пры помачы якога ўсе дактрыны і практыка маюць быць спраўджваныя. Ён прыймае традыцыйнае Апостальскае і Нікейскае Вызнаваньне Веры, але ня выключае выражэньня сучаснага хрысьціянскага слоўнага пагляду. Ён прадбачыць два Сакрамэнты — Хрышчэньне і Гасподнюю Вячэру, — але дазваляе шырокую розьніцу рытуальнага абыходжаньня.

Др Блейк выразіўся, што найболей характэрным аспэктам новага пляну ёсьць канкрэтнае вызначэньне часу ў справе рэалізацыі аб'яднаньня царквы да 1971 году і найпазьней у рамах 13 гадоў.

*ЯН ПЯТРОЎСКІ*

# Культура ў пэрспэктыве

## СЬВЯТЛО І ЦЕНІ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Мотто:

Запытайцеся скакуна, чым зьяўляецца прыгажаства . . . ? І ён адкажа вам, што гэта ёсьць ягоная жонка рапуха з двума вялікімі круглымі вачыма, выстаючымі зь яе малое галавы, з шырокім, плоскім ротам, з жоўтым жыватом і бранзовымі плячыма.Ісьледуйце гвінэйскага негра. Для яго прыгажаствам зьяўляецца чорна-аліўная шкура, глыбока асаджаныя вочы, плоскі нос. Ісьледуйце дыявала. Ён скажа вам, што прыгажаство — гэта пара рагоў, чатыры кіпцюры і хвост. І нарэшце, калі вы разгаворыцеся з філёзафамі, яны адкажуць вам у мала зразумелай мове: яны будуць вязаць гэта зь нечым, што ўзалежніваецца ад сутнасьці прыгажаства тыпу аркі . . .

Аднойчы я стаўся сьведкаю трагічнае драмы, філёзафа побач мяне. ”Як прыгожым гэта зьяўляецца!“ сказаў ён. ”Што прыгожае вы знаходзіце ў гэтым?“ запытаў я. ”Гэта прыгожа“, адказаў ён, ”бо аўтар даканаў тое, што ён меў у замеры выканаць.“

Вольтэр

### II

Хутка пасьля першае часткі з цыклю “Культура ў пэрспэктыве“ пасьледавала рэакцыя чытачоў.

Усё з гэтага, што дайшло да рэдакцыі, было апляузам.

Зьявішча гэтае натуральнае. Настроі ў гэтым дачыненьні ведамыя здаўна. Справа аставалася доўгія гады набалеўшай і цяперака толькі знайшла сваю, можна сказаць, эксплёзыю.

Аднак пасьля нейкага часу ў лістох да рэдакцыі і гутарках пачаў вычувацца нейкі іншы настрой, які можна схарактарызаваць несупакоем, нейкаю няпэўнасьцю. Іншыя нават раілі спыніць палеміку, выражаючы страх, сумежны з набліжэньнем нас да канца сьвету. Некаторыя спынілі дыханьне, чакаючы, што з гэтага ўсяго выйдзе.

Ведама, усюды, дзе гэта толькі магчымым было, я запэў-

ніваў нашых суродзічаў, што іхны страх неапраўданы, што сонца і надалей будзе ўсходзіць і заходзіць, незалежна ад таго, будуць беларусы сябе называць беларусамі, крывічамі ці ліцьвінамі або вялікімі літвінамі.

Найляпей было-б на гэтым месцы цытаваць зь лістоў выказваньні на гэтую тэму, але я ня чыню гэтага з дзьвюх прычынаў:

Па-першае, некаторыя выражэньні пад адрысам майго апанэнта нагэтулькі жорсткія, што яны стаялі-б у яскравай супярэчнасьці з характарам тэмы;

Па-другое, і гэта найгалаўнейшае, лісты гэтыя носяць прыкмету прыватных лістоў, і, як гэткія, цешацца поўным імунітэтам.

Але тымчасам, вычуваючы нейкую трывогу сярод нашых людзей, я ня мог усё яшчэ зар'ентавацца, аб што тут ідзе.

І толькі дня 20 сакавіка, у нядзелю, адазваўся тэлефон. Званіў нехта з маіх прыяцеляў з Канады і мы мелі, як на адлегласьць, доўгую гутарку. І толькі пад канец гутаркі мой размоўца у ўрываных словах напомніў, што выйшаў з друку № 2 "Незалежніка" і, што ў ім др Ян Станкевіч піша супроць мяне. На маё пытаньне, што-ж ён такое там піша, пачуўся адказ, што піша многа . . . , пра біблію . . . І ўсё.

Пасьля гэтае тэлефанічнае гутаркі ясным сталася, што др Я. Станкевіч выявіў сваю рэакцыю і, што гэтая рэакцыя займела праўдападобна той уплыў, які ўжо ад пэўнага часу вычуваўся ў лістох і гутарках нашых суродзічаў.

Ясным для мяне аставалася і тое, — і гэта характэрна для закранутае тэмы, — што паважаны прафэсар, рассылаючы ўсім № 2 "Незалежніка", наўсупярок добрым звычаям рыцарскасьці, не парупіўся, каб свайго апанэнта паведаміць у першую чаргу.

Цяперака аставалася толькі мець тэкст таго, што пісаў др Я. Станкевіч, і запазнацца зь ягоным зьместам.

У міжчасе я зьвярнуўся да аднаго з нашых суродзічаў з просьбаю, калі ён мае, прыслаць мне ўспомнены нумар "Незалежніка", які, пасьля нейкага тыдня часу, з удзячнасьцю я і атрымаў.

Няведама зь якіх прычынаў, але 11 травеня я атрымаў беспасрэдна і з рэдакцыі другі экзэмпляр № 2 "Незалежніка", за што выражаю маю ўдзячнасьць.

Зьмест і дух таго, што я цяпер прачытаў у "Незалежніку", мяне ня зьдзівіў, хоць гэтага духу, або, як у нас казалі, "сібэрнае пáры", як раз, мусяць, і баяліся нашыя суродзічы. Тэкст гэты зьяўляецца найлепшаю ілюстрацыяю да тэмы "культура ў пэрспэктыве".

Тэкст гэты носіць прыкметы памылкі агульнага характару, якая выражаецца ў словах: — "Нумар ... быў ужо складзены, калі я атрымаў ... " і г.д. Пераважна нешта, пісанае, як кажуць, на каленях, не ўдаецца добра. Найляпей, калі гэтае нешта пішацца на стале, пасьля пэўнага часу, калі першае ўражаньне міне і наступіць ахалоджаньне.

Але аддайма голас паважанаму доктару, які даслоўна пісаў:

Адказ Я. Пятроўскаму.

Сабачая брахня да неба не даходзе.
*Вялікалітоўская прыказь.*

Гэты нумар "Незалежніка" быў ужо складзены, калі я адзяржаў № 1(82) "Сьветача Хрыстовае Навукі", у каторым пан Ян Пятроўскі нападае на мяне за тое, што я выступіў у вабарону Бэлер Менску. Не пярэчачы паказанаму імною ліху ў Бэлер Менску і ня ўпікаючы таму, хто гэна ўчыніў, ён стараецца бачыць у маім зьвярненьню да сяброў Бэлер Менску (у верасьню 1965 г.) і ў "Незалежніку" нястачу культурнасьці, асьветы й эстэтычнасьці. Значыцца, подле яго ліха чыніць можна, але пісаць пра яго дзеля яго аддаленьня — ня можна. А прымеж таго, не раўнуючы, нават у Малітве Господняй, начай званай "Войча наш", менавана найгоршае ліха словамі "выбаві нас ад злога". Усё залежа ад таго, зь якой мэтаю што мянуюць.

Больш чымся някультурнасьцяй і пад., бо маною, дэмаралізацай гадамі адзначаецца адна газэціна, на сорам нам выдаваная нашым родзічам, і Я. П. на гэта не рэагуе. Напаў жа на мяне, несправядліва імсьцячыся за тое, што я адмовіўся даць яму пасьветчаньне пра тое, што ён быццам можа перакладаць Біблю. Ці я вінен, што Біблі ня можа перакладаць малапісьменны, хоць бы ён паважыўся сам сябе назваць "доктарам". Зь нястачы месца абмежуся пакуль што сказаным.

*Я. Станкевіч*

Пры чытаньні другога нумару гэтага "часапісу", кідалася ў вочы тэхнічная старана, як і ягоны зьмест. Калі папярэдні нумар налічваў шэсьць бачын друку, дык другі нумар "Незалежніка" меў ужо толькі чатыры бачыны і нічога ў зьмесьце пра незалежнасьць. Калі прафэсар выдае свой часапіс у памеры чатырох скромных бачынаў, дык усякая іншая публікацыя, мае ўсе падставы ўважацца амаль за энцыкляпэдыю і, не без падставы, называцца г. зв. беларускім ворганам! Праўдзівы парадокс.

***

Кажны чалавек, незалежна ад таго, ці і колькі ён мае школьных пасьведчаньняў, можа стацца ў пэўных мерах навукоўцам, калі ён будзе гаварыць праўду і апэраваць фактамі.

Мяне зьдзівіла, што паважаны прафэсар называе ніжэйпадпісанага "малапісьменным" і адначасна пачынае зь ім палеміку, як нехта ў лістох да мяне выразіўся, на вышэйшым узроўні. На сьвеце многа ёсьць малапісьменных, няўмекаў, поўанальфабэтаў і тупагаловых. Я спатыкаў многа дактароў і прафэсараў сярод расейцаў, палякаў, немцаў, ангельцаў, амэрыканцаў і я не знайшоў, каб хто-небудзь зь іх займаўся людзьмі гэткага асартымэнту. Ці ня крыецца ў паважанага прафэсара нешта іншае, калі ён пачынае займацца малапісьменнымі? Запраўды, я мусіў-бы чуцца ўганараваным, будучы "малапісьменным", мець нагоду палемікі на бачынах нашае прэсы з доктарам філялягічных навукаў і прафэсарам.

Вольтэр, францускі пісьменьнік і філёзаф XVIII стагодзьдзя, чалавек вялікага даўціпу і адукацыі, аднойчы раіў а́ўтарам:

"Калі кажуць пра цябе, што ты хворы, пацяшай самога сябе, што ты здаровы, без жаданьня даказваць людзям, што ты знаходзішся ў найлепшым здароўі; і, перад усім, памятай, што сьвет вельмі мала дбае пра тое, зьяўляешся ты хворым ці здаровым".

"Калі ты напісаў гісторыю твайго часу", кажа Вольтэр, "будзь пэўным, што знойдзецца адукаваны храналягісты, або камэнтатар газэты, каторы зловіць цябе на даце, на якім-небудзь хрысьціянскім імені, або на эскадроне, які ты памылкава памясьціў на адлегласьць трох сот крокаў ад месца, дзе ён быў фактычна памешчаным. Будзь удзячным, і папраў гэтыя важныя памылкі зараз-жа".

"Калі які-небудзь ігнарант", кажа далей Вольтэр, "або малапісьменны захоча крытыкаваць гэтыя або іншыя рэчы, ты можаш запярэчыць яму; але не ўспамінай яго часта з прычыны небясьпекі запаскуджаньня твайго пісаньня. Калі заатакаваны ты з прычыны твайго стылю, ніколі не адказвай; гэта твае творы, якія павінны адказваць".

***

"Малапісьменны" і, як супроцьстаўленьне, "шматпісьменны" — гэта толькі градацыя нашага дасьведчаньня, ступені нашага культурнага поступу ад стану да стану. Дзе гэтая градацыя пачынаецца і дзе яна канчаецца, гэтага ніхто ня можа сказаць і пада́ць трывалых і сталых нормаў.

Калі мы пакідалі школьную лаву, выходзілі мы ў сьвет пе-

ракананымі ў нашай шматпісьменнасьці! І толькі пасьля гадоў жыцьця і дасьведчаньня мы што раз болей і болей прыходзілі да перакананьня, што тэрміны ацэны нашага веданьня мусяць быць перастаўленымі на супроцьлежныя сабе месцы. Назіраючы некаторыя праявы ў жыцьці, я часамі дзіўлюся і часткава зайздрошчу людзям, якімі яны мусяць быць "шчасьлівымі", калі яны гэтак хутка ўпрошчваюць сабе тое, што зусім упрошчаным не зьяўляецца. "Навучоным" быць? — о, братцы , вы мае! Ці наагул людзі ведаюць, аб чым яны гавораць? Цім больш мы параўноўваем тое, што мы ведаем з тым, чаго мы ня знаем, тым глыбей мы прыходзім да перакананьня, што мы, запраўды, зьяўляемся толькі на парозе дотыку нейкае веды. Ня болей! Тое, чаго мы ня ведаем, зьяўляецца гэтакім нечым аграмадным, калі мы возьмем пад увагу тыя галіны навукі, якія стаяць перад намі. Але нехта можа сказаць, я ня маю на ўвазе ўсе галіны навукі. Я маю на ўвазе толькі сваю галіну, адну. Але нават, калі мы возьмем і гэтую адну нейкую галіну, ці можа чалавек тады сказаць, што ён *усё* ведае, хоць-бы нават і з гэтае галіны?

Я магу зарызыкаваць цьверджаньне, што за апішнія гады, "Сьветач Хрыстовае Навукі", параўноўваючы да іншых паралельных публікацыяў, атрымаў у лістох, у гутарках з рэдактарам, на шпальтах прэсы найболей пахвалаў для сябе. Існуюць, натуральна, галасы крытыкі адмоўнае. Да гэтае адмоўнае крытыкі, магчыма, належыць сам ягоны рэдактар у першую чаргу. Бо "Сьветач Хрыстовае Навукі" ўсё яшчэ не стаіць на тым узроўні, на якім ягоны рэдактар хацеў-бы яго бачыць. І, калі рэдактар заклікае каго-небудзь да вышэйшага культурнага ўзроўню, ён у першую чаргу заклікае самога сябе. Ён у першую чаргу прыймае адказнасьць на сябе, чымся ён можа гэтую адказнасьць ускласьці на плечы каго-небудзь іншага.

* * *

Трэба гаварыць праўду і падаваць факты. Гэта лёгка і дзейнічае як бальзам на сумленьне. Гэта абавязак кажнага вучонага чалавека.

Паважаны прафэсар др Ян Станкевіч піша: "Напаў жа на мяне, несправядліва імсьцячыся за тое, што я адмовіўся даць яму пасьведчаньне пра тое, што ён быццам можа перакладаць Біблію".

Трэба сцьвердзіць факт, што на тэму перакладу бібліі, я ніколі ня меў гонару гаварыць з др Я. Станкевічам і ніколі ня пісаў да яго ў гэтай справе. Я перакананы — гэта ведае кажны ду-

маючы чалавек — што, каб перакладаць біблію ў нармальных абставінах, ніхто на сьвеце не патрабуе ад нікога, ані ад людзей, ані ад школаў ніякіх пасьведчаньняў ці дазволаў. Я гэтаксама перакананы — і многія згодзяцца са мною — што, з увагі на суадносіны многіх людзей і рэлігійных інстытуцыяў да гэтага зборніку кнігаў, пераклад бібліі ня можа быць справаю аднаго чалавека. Прыклад перакладу Старога запавету, званы "Сэптуаґінтай", вельмі павучальны. За гэтым прамаўляе ў нас яшчэ і моўны аспэкт справы.

Але, ня гледзячы на ўсё, нешта-ж, мусяць, ёсьць з гэтага "пасьведчаньня" і "перакладу", калі доктар успамінае пра гэта.

І было гэта ў 1947 годзе.

У гэтым годзе, будучы ў Лінцу (Аўстрыя), я атрымаў дзьве невялічкія кніжыцы аднолькавага зьместу, адну ў расейскай і другую — у арыгінальнай, ангельскай мове. Аўтарам гэтых публікацыяў быў адзін з амэрыканскіх доктараў мэдыкаў. Недзе на вокладцы падавалася, што кніжка выдадзена ў некалькіх мовах, якія тут-жа і пералічваліся. Было іх, калі я добра памятаю, каля дзесяцёх.

Трэба памятаць, што перад апошняю вайною ў Эўропе, у часе яе і беспасрэдна пасьля яе заканчэньня, усе мы мелі на ўвазе (і сягоньня яшчэ маем) распаўсюджаньне весткі пра нашу справу ў кажнай магчымай форме.

Маючы гэта на ўвазе, у мяне зьявілася думка, ці ня варта было-б зьвярнуцца да аўтара публікацыі (ягоны адрыс падаваўся) з прапановаю перакладу кніжыцы на беларускую мову і друку яе.

На маю прапанову аўтар, які знаходзіўся ў ЗША, выразіў у аснаўным згоду, даючы да зразуменьня адначасна, што ён хацеў-бы мець упэўненасьць што да самае мовы перакладу — у дадзеным выпадку мае беларускае мовы.

Магчыма, для запэўненьня аўтара, хапіла-б ліста якое-небудзь беларускае ўстановы. Але ў Аўстрыі ў тым часе ня было ніякае іншае афіцыяльнае ўстановы апрача Канцылярыі душпастырства для беларусаў эвангельлікаў, якую я сам ачольваў. З этычных меркаваньняў я ня мог выкарыстаць Канцылярыі ў дадзеным выпадку. Затым прыйшла мне думка, што найляпей зьвярнуцца да др Янкі Станкевіча, з сям'ёю якога коратка перад гэтым была ўстаноўлена тады першы раз паштовая сувязь, і прасіць яго, як той казаў, "закінуць слова".

З гэтаю мэтаю я напісаў да паважанага доктара ліст. Думка гэтая абасноўвалася перадусім тым, што ў часе нашае апошняе сустрэчы, у гутарцы са мною, сярод іншага, прафэсар да мяне

сказаў: “...Ваша маеш добрую беларускую мову...”

Калі студэнту (а ўсе мы зьяўляемся студэнтамі) вучыцель кажа, што два плюс два раўняецца чатыры, дык мы прыймаем гэта за праўду.

Але цяперака адказ доктара на мой ліст быў адмоўны, што выражалася-б арытмэтычнаю формулаю: два плюс два раўняецца пяць.

Вось зьмест нашых лістоў, (зь якіх апушчаюцца тыя месцы, што не адносяцца да справы):

Яго Міласьці
Спадару Дру Янку Станкевічу
ў Рэґэнсбурґу.

17 верасьня 1947 г.

Паважаны Спадару Доктар, —

ад пэўнага часу знаходжуся я ў сувязі з адным эвангельскім трактатным выдавецтвам у Амэрыцы. Выдавецтва гэтае публікуе папулярныя рэлігійныя рэчы ў розных мовах. Кіруючыся нястачай падобнае літаратуры ў беларускай мове, я зьвярнуўся да ўспомненага выдавецтва з прапазыкай выдаваць іхныя рэчы гэтаксама і ў беларускай мове. Пры гэтым я ня ставіў ніякіх умоваў, апрача аднае, каб рэчы іх друкаваліся і ў беларускай мове!

Выдавецтва гэтае маю прапазыку прыняло і прыслала ўжо для апрацоўкі матарыял.

Рэалізацыя падобнае думкі даволі скамплікаваная, асабліва ў часе, які перажываем. Пераклады маюць быць тут, рэдакцыя ў Амэрыцы, а друкавацца — яшчэ недзе. Аднак галоўная труднасьць ляжыць на іншай плошчы: У рэдакцыі, натуральна, ніхто ня ведае беларускае мовы. Маю беларускую мову яны прыймаюць, кіруючыся, у гэтым выпадку, выключна даверрам. Каб-жа гэтае даверра ўзмоцніць, выражаюць адтуль думку, што пажадана было-б, каб яшчэ нехта з кампэтэнтных людзей для беларускага языка, мог сьцьвердзіць маё веданьне беларускае мовы, а гэтаксама, калі магчыма, і рэкамэндаваць для падобнае працы.

Просьба мая да Вас, паважаны Доктар: падтрымаць мяне ў гэтым выпадку, і, калі гэта не стаіць у каалізіі з Вашаю ацэнаю, прыслаць мне адпаведнае пісьмо, бяз розьніцы мовы, у якой можа быць яно напісана.

Прымеце словы пашаны.
Ваш, *Ян Пятроўскі*

На гэты ліст пастуціў наступнага зьместу адказ:

Рэґэнсбурґ, 28. IX. 1947

Вельмі Паважаны
Спадару Пастару,

учора я адзержыў Вашэцеў ліст, вельмі дзякую.

Вашэцева ініцыятыва ў справе перакладу й выдаваньня папулярных рэліґійных твораў цікавая й вельмі карысная. Відаць у Вашэцю ідэйнага і з ініцыятываю Крывіча. Якая шкада, што Ваша ня тут разам із іншымі Крывічамі! Дзеля таго мне надта прыкра, што я не магу споўніць Вашэцевае просьбы.Паслухаўшы ў даным прыпадку Вашэці, я пастуціў-бы ня згодна із сваім сумленьнем і зрабіў-бы ня добры, а благі ўчынак. Паверце мне, што Ваша гэтулькі ня знаеш роднае мовы, каб мог самастойна перакладаць.

Мог-бы я пасуліць сваё супрацоўніцтва. Калі ня можна пасылаць друкаў з Аўстрыі ў Нямеччыну, дык маглі-б мне друкі прыслаць проста з Амэрыкі. Але найляпей будзе, калі адлажыць гэтую справу і заняцца ёю разам па прыезьдзе ў Амэрыку — разам са мною ці зь кім іншым добра знаючым крывіцкую мову. Ё апрача мяне тут колькі адказных асобаў, што маглі-б гэтым заняцца, але ўсе мы цяпер тутка заняты іншымі актуальнейшымі працамі. Дык валей адлажыць да прыезду ў Амэрыку. Раджу Вам у гэткім сэнсе і напісаць выдавецтву ў Амэрыку. Справа застаецца, толькі адкладаецца, каб зрабіць яе спаважна і грунтоўна.

Прывітаньне ад нас Вашай спадарыні жонцы й дзяцём.

Жыве Крывія!

*Я. Станкевіґ.*

[П. С.:] У Амэрыцы былі-б зроблены пераклады і там-жа былі-б рэдагаваныя.

У адказ на ліст др Я. Станкевіча я пісаў:

Яго Міласьці
Паважанаму Дру Я. Станкевічу
ў Рэґэнсбурґу

9 кастрычніка 1947 г.

Паважаны Спадару Доктар, —

Вашае пісьмо з дня 28.9. сг. я атрымаў, за якое вельмі дзякую. Праўда, зьмест гэтага пісьма мяне ня зьдзівіў, можа з тае простае прычыны, што сягоньня наагул няма ўжо рэчаў пад небам, якія могуць яшчэ чалавека дзівіць. Адказваючы на Вашае цэн-

нае пісьмо, хацеў-бы я падзяліцца з Вамі некаторымі думкамі, якія гэтае пісьмо будзіць у-ва мне:

Я вельмі рад з Вашае гатоўнасьці супрацоўніцтва ў успомненай галіне, і што да мяне, стаю гатовы з працягнутымі рукамі. Баюся аднак, што зьмест Вашага пісьма прынцыпова разбурвае гэткае супрацоўніцтва. Бо якая-ж можа быць супраца паміж адным, які "ня знае" роднае мовы і другім, які яе "знае"?

Вашае цьверджаньне адносна мае беларускае мовы рашуча адкідаю, як абсалютна беспадстаўнае.

Мая беларуская мова — гэта жывая народная мова. Гэтае мовы я трымаўся і буду трымацца. Я сьведама адкідаю ўсякае наватворства і гэтак званую адсябяціну. У "Айкітабе" (?), у Насовіча і іншых можна знайсьці ўсё, што каму трэба — і трэба шукаць!— аднак прыймаецца яно пастольки, паскольки ўсё гэта не забівае жывое мовы. У васнову свае мовы кладу я народную мову Случчыны, дзе я радзіўся і дзе яе ўспрыняў.

І яшчэ адна рэч: Мова — гэта ня ёсьць выключна літары, словы ці сказы. Тут перад усім абавязвае стыль, а галоўнае характар, выхаваньне таго, хто гэтую мову ўжывае, тут абавязвае такт, зь якім гэтая мова ўжываецца. І тут перад беларускай інтылігэнцыяй ляжыць яшчэ вельмі доўгая дарога. Будзем спадзявацца, што можа дзеці нашых дзяцей зразумеюць недахопы сваіх дзядоў і прадзядаў і выпаўняць прабел, які гэтак горка адчуваецца на кажным шагу нашага грамадзкага жыцьця.

Перада мною ляжыць цяпер аб'ёмістая кніга "Курс Нядзельнае Школы" (28 лекцыяў). Там не гаворыцца хто тлумачыў гэты "Курс", але я думаю, што кніга гэтая Вам ведама. І як гэта ня дзіўна, кніжка гэтая бадай сярод беларусаў не разыйшлася толькі затым, што мова яе была бадай нікому няведамай. Я Вас магу запэўніць, што ніякае трактатнае таварыства ня будзе выдаваць коштаў на філялягічныя экспэрымэнты таго ці іншага тэарэтыка. Ім патрэбна мова не для двух-трох "вучоных", але для шырокіх беларускіх масаў . . .

Тут варта яшчэ і тое ўспомніць, што, як да гэтае пары, мне ня прыходзілася спаткаць людзей, якія-б хацелі безінтэрасоўна ахвяраваць свой час для працы для Бога. Але гэта асобны прадмет гутаркі, які аднак тутака мае месца.

Дзякую за прывітаньні, і прасіў-бы Вас прыняць ад нас самыя найлепшыя пажаданьні ў Вашай працы і на будучыню.

Ваш, *Ян Пятроўскі*

Пасьля прачытаньня вышэй прыведзенага ліста др Я. Станкевіча адсьвежылася старое, забытае і няпрыемнае, і адначасна выступіла зразуменьне сьвету і абставінаў, у якіх цяперака беларусы маюць жыць і працаваць на эміграцыі.

І сьвет гэты коранна розьніцца ад таго, які мы пакінулі на бацькаўшчыне далёка за намі. Ліст доктара прыпомніў, што цяперака распачынаецца пара́ энтаганізму і канкурэнцыі ў сфэры невялікіх магчымасьцяў працы ў беларускай мове і бесскрупулятнага адваёўваньня гэтых магчымасьцяў для сябе. Гэта выразна вынікае з контравэрсыйнага цьверджаньня, што нехта ня ведае беларускае мовы з адначаснаю гатоўнасьцю супрацы прафэсара зь няўмекаю. Дзеля гэтага трэба пісаць: "Вашэцева ініцыятыва ў справе перакладу й выдаваньня папулярных рэлігійных твораў цікавая й вельмі карысная. Відаць у Вашэцю ідэйнага і з ініцыятываю Крывіча". Тут выкарыстоўваецца прынцып беларускае пагаворкі: "Кось, кось — ды ў ваглоблі!" Сена трымаецца наперадзе ў правай руцэ, а аброць з-заду — у левай. З тою хвілінаю, калі аброць будзе ўжо ўзьдзета, тады пачуюцца словы: я-ж Вашэці казаў — "Паверце мне, што Ваша гэтулькі ня знаеш роднае мовы, каб . . . " і г. д. У выпадку, калі-б і гэта не памагло, дык трэба здыскрымінаваць публічна і назваць малапісьменным. А калі і гэта не паможа, тады знойдзецца яшчэ лепшы "навуковы" сродак, пра які нехта нядаўна пісаў — "сілаю адміністрацыі".

***

Прыклічма на помач сылёгізм і мы атрымаем наступны вобраз: А=Б, Б=В. Адсюль А=В. Мы можам узяць іншыя знакі: П=М, М=С. Згэтуль П=С. У перакладзе на болей зразумелую мову, вобраз гэты прыйме болей канкрэтныя кантуры:

П=М[алапісьменны], С[гатовасьцю супрацы]=М. Адсюль выснаў, што П=С. Ведама, тут мы можам прыняць лёгіку або адкінуць яе.

Магчыма ў маім першым лісьце я неадпаведна справу прадставіў. Чытаючы мой ліст, магло паўстаць уяўленьне некалькі вялізарных пакояў з клякочучымі машынамі да пісаньня, на якіх адбываецца вялікая праца перакладу, ну, і натуральна, яшчэ большыя тысячы даляраў, на якія, калі хто і мае права, дык, перадусім, "навучоныя".

***

Калі жаўнер, выконваючы свой абавязак у часе гарачага франтовага бою, стаіць насупраць свайго ворага, ён нічога інша-

га ня бачыць, як толькі апошняга і мала разьбіраецца, якою лініяю прабягае цэласьць фронту. Адказныя, аднак, людзі, якія кіруюць бітваю, маюць за заданьне назіраць вобраз лініі цэлага фронту, не ўдаючыся ў паасобныя дэталі акцыі.

На культурным фронце адбываецца гэты самы працэс і з падобным разьмежаваньнем задачаў і абавязкаў. Як мы вывяжамся з гэтых задачаў і эстэтычных забавязаньняў, будзе адначасна ілюстрацыяй таго культурнага ўзроўню, узьняцьцю якога служыць мы маем.

# Павеў мудрасьці

За цярпеньне Бог дае збаўленьне.

*Зь беларускае скарбніцы*

Як адчуваньне болю зьяўляецца неабходнай умовінай захаваньня нашага цела, гэтак і цярпеньні зьяўляюцца неабходнымі прадумовінамі нашага жыцьця ад нараджэньня і да сьмерці.

*Леў Талстой*

Калі-б Бог даваў нам гэтакіх вучыцялёў, пра якіх мы ведалі-б напэўна, што яны пасланыя Самым Богам, дык мы павінаваліся-б ім свабодна і радасна.

Мы і маем гэтакіх вучыцялёў: гэта патрэба і наагул усе няшчасныя здарэньні жыцьця.

*Паскаль*

Як лягэнда пра вечнага жыда, які за ка́ру прыгавораны на вечнае жыцьцё бяз сьмерці, гэтак справядлівай была-б лягэнда пра чалавека, у відзе ка́ры прыгаворанага на жыцьцё без цярпеньня.

*Леў Талстой*

Малыя цярпеньні выводзяць на з раўнавагі, вялікія-ж вяртаюць нас самым сабе. Лопнуўшы звон выдае глухі тон: разьбеце яго на дзьве часткі — ён зноў выдае чысты тон.

*Жан-Поль Рыхтар*

Калі ты любіш, калі молішся, калі ты церпіш — ты чалавек.

*Із індыйскае скарбніцы*

Хто з прычыны Божае ка́ры стаецца лепшым у сваіх паступках, той павінен радавацца, што наведалі яго цярпеньні, бо яны прынесьлі яму вялікую карысьць, і аддаць за іх падзяку Богу, як за кажнае іншае шчасьце.

*Тальмуд*

Бог жыве ўва ўсіх людзях, але ня ўсе людзі жывуць у Богу. Тут прычына цярпеньня людзей.

Як лямпа ня можа гарэць без агня, гэтак ня можа чалавек жыць

бяз Бога.

*Із братінскае мудрасьці*

Людзі пераважна гэтак адносяцца да сваіх прыемнасьцяў, што сумуюць, калі губяць іх. Аднак на добрай дарозе толькі той чалавек, які ўмее радавацца і, адначасна, не сумаваць, калі прычына ягонае радасьці мінае.

*Улас Паскаль*

Цярпеньні — вось і ёсьць жыцьцё. Без цярпеньня якая была-б у ім прыемнасьць?!

*Дастаеўскі*

## ПА РАДКОХ ДРУКУ

### Водклікі пра Сьветач Хрыстовае Навукі

Алесь Валошка ў № 1(26) "Незалежнае Беларусі", сакавік, 1966, у рубрыцы "Па сьлядох выдавецтва", піша:

"Сьветач Хрыстовае Навукі №№ 81 і 82, Першы Беларуска-Эвангельскі Часапіс. **Здаровая крытыка ды цікавыя і вартасныя артыкулы, напісаныя прыгожаю беларускаю моваю".**

Гаспадар праф. др Ян Станкевіч, аднак, у "Незалежніку" № 2, 1966 г., прыходзіць да іншага перакананьня. Тое, што адны называюць **"здаровую крытыкаю" і "прыгожаю беларускаю моваю"**, ён расцэньвае, як **"сабачая брахня..."**, а рэдактара называе **малапісьменным .**

Выдаваны ў Англіі каталіцкі часапіс, "Божым Шляхам", № 1(94) у сталай рубрыцы "Зь беларускае прэсы" пра наш часапіс гэтак кажа: **"Сьветач Хрыстовае Навукі": (Эвангельскі Часапіс) 1965, № 2(81). Нумар прысьвечаны ГАЛЬЯШУ ЛЯЎКОВІЧУ (ЛЕЎЧЫКУ) ў 85-ыя ўгодкі ад дня нараджэньня. — *Вялікая шкада, што такі часапіс* выходзіць так рэдка і ў такім невялікім фармаце і аб'ёме!"**

□ □ □ □

## ХРЫСЬЦІЯНІН І ЯГОНАЕ СУМЛЕНЬНЕ

### З адказаў на лісты

**Паважаны Чытачу:**

Вашыя засьцярогі адносна мамэнтаў палітычных у нашым часапісе ня маюць *большага абаснаваньня*. Праўда, Вы не зьяўляецеся тут першым, хто выражае гэтыя засьцярогі з прычыны нашае пазыцыі. Многія людзі, асабліва з кругоў г. зв. веруючых, выражаюць думку, што, каб астацца чыстым у сваіх вераваньнях, думаюць, што найляпей аставацца збоку ад усіх г. зв. сьвецкіх справаў. Многія хрысьціяне з гэтае прычыны ўцякалі ад гоману жыцьця, запіраліся ў вузкія памяшчэньні, аддаляліся ў лясы, дбалі вылучна пра збаўленьне ўласнае душы і мала турбаваліся пра

справы штодзеннага жыцьця, пакідаючы іх часта нясумленным людзям.

Любім мы гэта ці не — усе мы займаемся палітыкаю.

Калі Вы шукаеце лепшае працы з большым узнагароджаньнем, каб лепей быць памочным Вашай сям'і, дык Вы займаецеся палітыкаю. Калі Вы хочаце, каб Вашыя дзеці адведвалі лепшую школу, дык гэта палітыка. Калі Вы выбіраеце, скажам, паслоў і сэнатараў у Вашай акрузе, Вы выконваеце акт палітычны. Калі Вы падаеце голас за таго ці іншага кандыдата на прэзыдэнта тае краіны, у якой Вы жывяце, дык займаецеся самаю праўдзіваю палітыкаю. Калі Вы плоціце падаткі, — і я думаю, што Вы іх плоціце, — дык Вы чыніце палітыку ў гэтым краю, у Эўропе, у Вьетнаме... Калі Вы гэтымі рэчамі не займаецеся, дык гэтаксама, сьведама ці нясьведама, стаецеся вадою на палітычнае кола, г. зн. чыніце палітыку.

Слова "палітыка" грэцкага паходжаньня і значыць гэтулькі, што штука кіраваньня дзяржаваю, інстытуцыяю, арганізацыяю, сям'ёю... Кажнае прадпрыемства мае сваю палітыку. Кажная царква мае сваю палітыку самаўправы, працы, арганізацыі і г.д. Калі якая-небудзь царква кажа, што яна ня мае палітыкі, дык гэта значыць, што дадзеная царква мае палітыку, выключаючую палітыку. Гэта гра словаў, прадназначаная для г. зв. маленькіх у царкве, але палітыка тут астаецца палітыкаю.

Праўда, палітыка ўжываецца, надужываецца і злоўжываецца. Аднак навуку палітычную першыя "выдумалі" разумныя і вялікія людзі, якіх звалі філёзафамі, як вучань Сакрата — Плятон, Арыстотэль — вучань Плятона, Цыцэро і ін. Навука гэтая мае служыць справам арганізаванага жыцьця.

Пытаньне для нас астаецца, хто мае займацца палітыкаю. У краінах г. зв. таталітарных палітыка канцэнтруецца пераважна ў руках дыктатараў (Сталін, Гітлер). У краінах дэмакратычных палітычная ўлада і адказнасьць дзеліцца паміж усімі грамадзянамі. Паняцьце дэмакрацыі выплывае з Эвангельля.

Калі Вы, хрысьціянін, ідзяце па дарозе і бачыце церпячага чалавека, Вашым маральным абавязкам ёсьць памагчы яму. Калі Вы бачыце, што церпіць гэткая вялікая група людзей, якую мы завем беларускім народам, дык Вашым абавязкам ёсьць ня быць абыякавым адносна гэтых цярпеньняў, а выйсьці на спатканьне гэтым людзям. Калі нашую помач нашаму народу нехта хоча назваць палітыкаю, дык нічога нам іншага не астаецца, як стацца палітыкамі.

//

ПАПРАЎКА

Першы сказ, узятага ў дужкі тэксту, падаючага жарало матэрыялу, друкаванага на першай і другой бачыне мінулага нумару, павінен гучэць: Рукапіс, датаваны 1692 г., знойдзены ў старой Англіканскай царкве сьв. Паўлы ў Болтімор.

Тэкст да мотто, аўтарам якога зьяўляецца Янка Купала, ужыты да артыкулу "Права да жыцьця і розная ягоная інтэпрэтацыя" (у папярэднім нашым нумары), у арыгінале гучыць:

Калі грозен, мужычок?
— Як з жонкаю б'юся.

//

Printed by The Whiteruthenian Press — 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204